# МУЗЕЙ БССР

*Государственный музей БССР*

*Byelorussian State Museum*

*Musée d'Etat de Biélorussie*

*Belorussisches Staatsmuseum*

*Museo Estatal de Bielorrusia*

МІНСК «БЕЛАРУСЬ» 1986

## *ДЗЯРЖАЎНЫ МУЗЕЙ БССР*

Дзяржаўны музей Беларускай ССР з'яўляецца адным з буйнейшых сховішчаў каштоўных рэчавых і дакументальных матэрыялаў па айчыннай гісторыі, важнай культурна-асветнай установай рэспублікі. Ён заснаваны ў 1957 годзе па рашэнню Савета Міністраў БССР замест Беларускага дзяржаўнага музея, разрабаванага нямецка-фашысцкімі акупантамі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны. Між тым у 1941 годзе ў гэтым музеі налічвалася больш за 60 тысяч прадметаў, у тым ліку унікальныя ўзоры рукапісаў і старадрукаваных кніг, твораў прыкладного мастацтва і жывапісу, манеты і пячаткі, калекцыі рыцарскіх даспехаў, старажытных гармат і іншай зброі. Большасць з іх бясследна знікла, і толькі адзінкавыя экземпляры былі выратаваны ў 1944 годзе савецкімі войскамі ва Усходняй Прусіі і вернуты беларускаму народу.

Стварэнне Дзяржаўнага музея БССР — вынік карпатлівай даследчай і збіральніцкай працы навуковага калектыву. Шматлікія гісторыка-этнаграфічныя, археалагічныя і прыродазнаўча-навуковыя экспедыцыі, якія рэгулярна праводзіліся ў розных рэгіёнах Беларусі, праца ў буйнейшых музеях і архівах Савецкага Саюза дазволілі на працягу адносна кароткага перыяду выявіць каштоўныя рэчавыя і пісьмовыя крыніцы, ажыццявіць камплектаванне музейных фондаў. На гэтай аснове ў 1967 годзе была створана стацыянарная экспазіцыя, і залы музея адкрыліся для шырокага кола наведвальнікаў.

У цяперашні час у музеі сфарміраваны разнастайныя калекцыі: археалагічныя, этнаграфічныя, нумізматычныя, прыродазнаўча-навуковыя, ваенна-гістарычная, медалёў, рукапісаў і старадрукаваных кніг, твораў мастацтва, мемарыяльных рэчаў, якія звязаны са значнымі гістарычнымі падзеямі і жыццём відных дзеячаў рэвалюцыйнага руху, камуністычнага будаўніцтва і культуры. Музей налічвае больш за 280 тысяч прадметаў. Іх храналагічны дыяпазон вельмі характэрны: ад ручнога рубіла, прылады працы першабытнага чалавека, да касмічнага скафандра, у якім здзейсніў свой зорны палёт 18—26 снежня 1973 года слаўны сын беларускага народа, двойчы Герой Савецкага Саюза, лётчык-касманаўт СССР Пётр Клімук на караблі «Саюз-13». Збор Дзяржаўнага музея Беларускай ССР цікавы і тым, што ў ім побач з помнікамі матэрыяльнай і духоўнай культуры мясцовага паходжання шырока прадстаўлены прадметы, якія бытавалі на Беларусі, а створаны былі на суседніх славянскіх і больш далёкіх, заходнееўрапейскіх землях і нават на Каўказе, краінах Усходу.

У збор матэрыялаў па гісторыі першабытнага грамадства ўваходзяць паляўнічыя, рыбалоўныя і земляробчыя прылады, разнастайны вытворчы інвентар, бытавыя і рытуальна-культавыя прадметы, творы мастацтва, упрыгожанні і іншыя рэчы. Яны дазваляюць сёння ўявіць жыццё нашых далёкіх продкаў, пачынаючы са старажытнакаменнага веку.

Некаторыя матэрыялы, звязаныя з вытворча-гаспадарчай дзейнасцю людзей эпохі родавага ладу, з'яўляюцца унікальнымі. Да іх ліку адносяцца рэшткі жытла са стаянкі Юдзінава (Пагарскі р-н Бранскай вобл.), збудаванага ў XVIII—XVI тысячагоддзях да н. э. з чэрапаў і касцей мамантаў; драўлянае рала, якое бытавала прыкладна ў І стагоддзі н. э. у гаспадарцы плямён зарубінецкай культуры. Гэта ворная прылада, знойдзеная ў тарфяніку паблізу в. Капланавічы (Клецкі р-н Мінскай вобл.), мае аналогіі ў скіфскіх старажытнасцях. Рала з'яўляецца пераканаўчым сведчаннем мажлівага выкарыстання ў земляробстве на тэрыторыі Беларусі цяглавай сілы свойскай жывёлы ўжо ў раннім жалезным веку. Рэдкімі прыладамі працы з раскопак шырока вядомага ў цяперашні час археалагічнага помніка — крэмнездабываючых шахтаў эпохі неаліту і бронзавага веку каля г. п. Краснасельскі (Ваўкавыскі р-н Гродзенскай вобл.) — прадстаўлен такі важны від тагачасных вытворчых заняткаў, як здабыча крэменю. Знойдзеныя тут кіркі розных памераў і формаў з рога высакароднага аленя даюць магчымасць досыць наглядна ўявіць шматвяковую ўпартую працу першабытных шахцёраў, якія, здабываючы крэмень, выкапалі прымітыўным інструментам некалькі соцень шахтаў глыбінеи да 6—8 метраў.

У калекцыях ёсць шмат іншых прылад працы, зброя з каменя, рога, косці, якія маюць такое ж важнае гісторыка-музейнае значэнне, што і рарытэты. Асаблівую ўвагу прыцягвае збор каменных прылад, знойдзеных пры раскопках стаянак і пахаванняў старажытных людзей, а таксама выпадкова

на палях і берагах вадаёмаў, што дазваляе прасачыць развіццё формаў і функцыянальную спецыфіку гэтых прадметаў на працягу некалькіх гістарычных эпох: ад простых крамянёвых скрабкоў і разцоў старажытнакаменнага веку да зробленых з розных парод валуннага каменя (граніт, дыярыт і інш.) свідраваных сякер эпохі бронзы. Сабраны матэрыял паказвае, што першабытны чалавек паступова авалодваў разнастайнымі навыкамі апрацоўкі каменя — рэтушаваннем, шліфаваннем, паліраваннем, свідраваннем, пілаваннем. Адну з самых шматлікіх груп каменных прылад складае зброя: наканечнікі дроцікаў, стрэл, коп'яў, свідраваныя сякеры. Выраблёныя з крэменю трохвугольныя, рамбічныя і лістападобныя наканечнікі са старанназавостранымі краямі маюць рэтушаваную паверхню. Найбольш дасканалай формай і тэхнікай апрацоўкі сярод розных тыпаў каменных прылад вызначаюцца свідраваныя сякеры. Цудоўна адшліфаваныя, яны вельмі падобны на металічныя.

Помнікамі вялікай музейнай каштоўнасці з'яўляюцца прадметы першабытнага мастацтва і ўпрыгожанні. Яны цесна звязаны са светапоглядам, абрадамі і звычаямі, гаспадарчым жыццём іх тварцоў.

Мастацтва паляўнічых эпохі палеаліту прадстаўлена ўзорамі XVIII — XVI тысячагоддзяў да н. э. са стаянкі Юдзінава. Гэта галоўка птушкі, выразаная з адростка рога паўночнага аленя, вырабы з біўняў мамантa, аздобленыя геаметрычным арнаментам. Сярод упрыгожанняў варты ўвагі набор прасвідраваных ракавін, з якіх рабілі каралі. Ракавіны цікавыя тым, што паходзяць з Чарнаморскага ўзбярэжжа. Іх знаходка на тэрыторыі Верхняга Падняпроўя сведчыць аб далёкіх перамяшчэннях першабытных абшчын на вялікай прасторы.

Больш шырокім колам матэрыялаў характарызуецца мастацтва эпохі неаліту і бронзавага веку. У іх ліку ёсць серыя унікальных для тэрыторыі Беларусі твораў скульптуры малых форм — фігуркі лася, птушкі, змяі і чалавека канца III — пачатку II тысячагоддзя да н. э. з тарфянікавай стаянкі Асавец 2-гі (Бешанковіцкі р-н Віцебскай вобл.). Выразаныя з косці і рога фігуркі жывёл маюць рытуальна-магічнае прызначэнне. Такія творы часта былі параджэннем рэальных жыццёва неабходных запатрабаванняў першабытнага чалавека. Відавочна, у выявах лася і птушкі знайшло адлюстраванне важнае прамысловае значэнне гэтых жывёл. Паляванне на іх, як, дарэчы, і на іншых звяроў, патрабавала меткасці, спрытнасці і было вельмі няпростай справай для тагачасных людзей. Адзінай з'яўляецца драўляная фігурка чалавека. Яна дайшла да нас дзякуючы таму, што праляжала некалькі тысячагоддзяў у торфе, які кансервуе драўніну. Гэта невялікая па памерах скульптура была хатнім ідалам.

Самую шматлікую групу прадметаў першабытнага мастацтва складаюць узоры арнаментаванай керамікі. У калекцыі ёсць як фрагменты, так і цэлыя экземпляры глінянага посуду. Яны паказваюць, што росквіт самай старажытнай арнаментыкі прыпадае на эпоху позняга неаліту і бронзавы век. Контррэльефныя рытмічныя малюнкі, выкананыя да абпальвання па сырой паверхні керамічных пасудзін, складаюцца з кропак, насечак, палосак, трохвугольных і авальных ямачак, хвалістых і зігзагападобных ліній і іншых геаметрычных элементаў. Старажытныя людзі ўкладалі ў арнаментальныя кампазіцыі пэўны сэнс. Не выпадкова ў кераміцы розных плямён ёсць свае спецыфічныя, уласцівыя толькі іх культуры рысы.

У музеі нямала твораў прыкладнога мастацтва жалезнага веку: металічныя фібулы, бранзалеты, скроневыя кольцы, пярсцёнкі, падвескі... Найбольш цікавымі з'яўляюцца бронзавыя ўпрыгожанні з выемчатай каляровай эмаллю, выраблёныя ў II—IV стагоддзях н. э. Шэраг гэтых аздоб з рымскіх правінцый і Прыбалтыкі пабываў у руках многіх пасрэднікаў, перш чым трапіў на тэрыторыю Беларусі. Некаторыя ж вырабы хутчэй за ўсё мясцовага паходжання. Да іх ліку адносіцца падвеска-лунніца, упрыгожаная чырвонай эмаллю. Яна знойдзена на паселішчы плямён зарубінецкай культуры Абідня каля в. Адаменка (Быхаўскі р-н Магілёўскай вобл.), дзе, як слушна мяркуецца, існавала ў той час ювелірная вытворчасць.

Матэрыялы эпохі Старажытнай Русі ўключаюць шматлікія прылады працы, бытавыя, дэкаратыўныя і культавыя вырабы з металу, дрэва, керамікі, косці, рога, шкла, каменя, бурштыну, сердаліку. Яны дазваляюць ахарактарызаваць сярэдневяковую гаспадарку, ролю горада ў развіцці эканомікі, сацыяльнае становішча, побыт, культуру розных слаёў насельніцтва і іншыя бакі раннефеадальнага грамадства.

Віднае месца ў калекцыях займае матэрыял, які адлюстроўвае падзел працы, вялізную розніцу паміж сельскім і спецыялізаваным гарадскім рамяством. Разнастайны інвентар і вырабы кавалёў, ювеліраў, ганчароў, разьбяроў па косці, дрэву, каменю і рамеснікаў іншых спецыяльнасцей сведчаць аб тым, што гарадскія майстры былі лепш аснашчаны, валодалі больш дасканалымі і складанымі тэхналагічнымі навыкамі, мелі

значна шырэйшы асартымент прадукцыі. Асабліва яркае ўяўленне аб гэтым даюць сабраныя пры археалагічных раскопках старажытных гарадоў і курганных пахаванняў на тэрыторыі Беларусі прадметы прыкладнога мастацтва X—XIII стагоддзяў: завушніцы, пацеркі, пярсцёнкі, бранзалеты, колты, падвескі, шыйныя грыўні, спражкі... Большасць іх выраблена з каляровых, а часам высакародных металаў, і нярэдка ўпрыгожана сканню, зерню, чаканкай. Унікальным прадметам у зборы старажытных аздоб з'яўляецца залаты бранзалет XII стагоддзя вагой каля 75,5 грама, знойдзены на Мінскім замчышчы. Ён сплецены з тоўстага дроту і заканчваецца дзвюма стылізаванымі галоўкамі пачвары накшталт дракона.

Высокі ўзровень гарадскога рамяства адлюстроўваюць вырабы з косці і рога: арнаментаваныя тронкі нажоў, грабяні, разныя накладкі, шахматныя фігуркі, абразкі і г. д. Многія названыя рэчы адносіліся да масавай прадукцыі мясцовых майстроў і выкарыстоўваліся ў побыце розных сацыяльных слаёў насельніцтва. Уладальнікамі ж шэрага прадметаў былі ў асноўным толькі гарадскія вярхі. Тут ёсць вырабы значнай гісторыка-мастацкай каштоўнасці. Перш за ўсё гэта рэдкія сёння творы дробнай пластыкі XII стагоддзя — шахматная фігурка ферзя з Лукомля (Чашніцкі р-н Віцебскай вобл.) і вухачыстка з Навагрудка (Гродзенская вобл.) з выявай музыканта, які грае на струнным шчыпковым інструменце. Значных вышынь дасягнулі майстры мастацкай апрацоўкі косці і рога ў выразанні контурных і рэльефных арнаментальных і сюжэтных кампазіцый. Да ліку цудоўных узораў такой разьбы, датаваных XII стагоддзем, адносяцца пышна ўпрыгожаны складанымі формамі геаметрычнага арнаменту ігольнік з Навагрудка і дэкаратыўная накладка ад калчана з Лукомля, на якой выгравіраван стылізаваны малюнак ільвоў.

Аб'ектам мастацкай творчасці былі не толькі прадметы побыту, але і культу. Сувязь з язычніцкімі ўяўленнямі ўсходніх славян прасочваецца ў амулетах у выглядзе нагрудных падвесак — лунніцах, коніках, бразготках, лыжачках... Падвескі надзяляліся магічнай сілай, якая, лічылі тагачасныя людзі, ахоўвала іх уладальнікаў ад злых сіл, няшчасцяў і непрыемнасцей. Цікавым помнікам, звязаным з дахрысціянскай ідэалогіяй, з'яўляецца і так званы шклоўскі ідал. Высечаную з пясчаніку манументальную скульптуру язычніцкага божышча знайшлі на беразе р. Серабранка каля г. Шклова (Магілёўская вобл.). Як мяркуецца, яе схавалі тут мясцовыя ідалапаклоннікі ў сувязі з пашырэннем хрысціянства ў X стагоддзі.

Некаторыя рамесныя вырабы старажытнарускай эпохі сведчаць аб шырокіх гандлёвых сувязях беларускіх зямель. Гэта прывазныя рэчы — пацеркі і бранзалеты са шкляных майстэрань Кіева, шыферныя прасліцы з Оўруча, прыбалтыйскія ўпрыгожанні, шкляныя і сердалікавыя пацеркі з Бліжняга Усходу і Сярэдняй Азіі, амфары, у якіх дастаўлялі віно і алей з краін Прычарнамор'я. Для вытворчасці шэрага вырабаў на тэрыторыю Беларусі прывозіліся і розныя віды сыравіны: прыбалтыйскі бурштын, каўказскі самшыт, каляровыя і высакародныя металы з краін Цэнтральнай і Паўночнай Еўропы і іншых рэгіёнаў.

Выразнае ўяўленне аб гандлёва-эканамічных сувязях беларускіх зямель, а таксама аб развіцці грашовай гаспадаркі даюць нумізматычныя калекцыі. Яны ахопліваюць працяглы перыяд гісторыі манетнай справы — ад манет старажытнай Грэцыі і Рыма аж да нашых дзён. Фарміраванне нумізматычнага збору цесна звязана з вялікай колькасцю скарбаў, знойдзеных на Беларусі, праз землі якой у мінулым праходзілі важныя шляхі зносін, у тым ліку славуты шлях «з вараг у грэкі».

У музеі захоўваецца больш за 80 скарбаў. Найбольш часта сустракаюцца ў іх манеты XVI—XVII стагоддзяў. Адным з рэдкіх з'яўляецца манетна-рэчавы скарб першай палавіны XI стагоддзя, знойдзены каля в. Гараўляне (Глыбоцкі р-н Віцебскай вобл.). У гліняным гаршку знаходзіліся 149 куфіцкіх дырхемаў і іх імітацый, адчаканеных у Багдадзе, Ташкенце, Самаркандзе, Бухары і іншых усходніх гарадах, фрагмент чэшскага дынарыя. Разам з манетамі ў пасудзіне былі шкляныя залачоныя пацеркі і набор крывіцкіх сярэбраных упрыгожанняў. Не менш цікавым з'яўляецца і скарб, знойдзены ў в. Дзягцяны (Капыльскі р-н Мінскай вобл.). Яго схавалі ў сярэдзіне XI стагоддзя. Апрача некалькіх соцень манет — дынарыяў Чэхіі, Германіі, Венгрыі, Даніі, куфіцкіх дырхемаў, у ім былі вельмі прыгожыя цэлыя і пашкоджаныя завушніцы і іншыя жаночыя аздобы з серабра. Гэтыя тыповыя для заходніх славян прадметы гавораць аб сувязях з чэшскімі і польскімі землямі.

У нумізматычным зборы разам з рэдкімі антычнымі манетамі шырока прадстаўлены арабскія, заходнееўрапейскія і рускія. Яны маюць непасрэдныя адносіны да гісторыі грашовай гаспадаркі Беларусі. Кожная з калекцый па-свойму цікавая. Але асаблівую ўвагу прыцягваюць рускія манеты, у прыватнасці, сярэбраныя рублі і паўрублі з пагруднымі партрэтамі, чаканеныя ў розныя гады

XVIII — пачатку XIX стагоддзя Маскоўскім і Санкт-Пецярбургскім манетнымі дварамі. Ёсць таксама памятныя рублі, якія рэдка выпускаліся ў дарэвалюцыйнай Расіі, у тым ліку манеты ў гонар 100-годдзя Айчыннай вайны 1812 года і Пятра I у сувязі з 200-годдзем Гангуцкай бітвы 1714 года. Варты ўвагі і навадзел 30-х гадоў XIX стагоддзя такой унікальнай манеты, як «сестрарэцкі медны рубель». Яго арыгінал быў адчаканены ў 1771 годзе ў колькасці дзесяці пробных экземпляраў Сестрарэцкім манетным дваром дзеля банкаўскага забеспячэння папяровых грошай. Гэта манета ўражвае сваімі памерамі і масіўнасцю, хаця вага навадзела (450 грамаў) у два з лішнім разы менш, чым арыгінала.

Некаторыя манеты каштоўныя тым, што з'яўляюцца сапраўднымі творамі пластычнага мастацтва. Яны зрадні сабраным у музеі многім памятным медалям і медальёнам. У дарэвалюцыйным раздзеле калекцыі ёсць медалі, выпушчаныя ў сувязі са знамянальнымі гістарычнымі падзеямі на тэрыторыі Беларусі. Найбольш ранні сярод іх — медны медаль чаканкі 1720 года ў гонар бітвы пад Лясной (Слаўгарадскі р-н Магілёўскай вобл.) 28 верасня 1708 года. Віднае месца займаюць і створаныя ў стылі класіцызму вядомым рускім скульптарам і медальерам XIX стагоддзя Ф. Талстым медальёны з белага непаліванага фарфору і бронзы — «Бітва пры Бярэзіне 1812», «Трохдзённы бой пры г. Красным 1812», «Уцёкі Напалеона за Нёман» з серыі, прысвечанай ваенным падзеям 1812—1814 гадоў.

У музейным зборы маецца багаты матэрыял, які характарызуе становішча і побыт насельніцтва Беларусі ў перыяд позняга феадалізму і капіталістычную эпоху, рамесную, мануфактурную і фабрычна-завадскую вытворчасць, асвету, тэхніку, навуку, культуру таго часу.

У прыватнасці, карпатлівая вышукальная праца дазволіла сфарміраваць значныя калекцыі рукапісных і старадрукаваных кніг. Добра вядома, што кнігам належыць вялікая роля ў развіцці культуры кожнага цывілізаванага грамадства. З пашырэннем друкарскай справы і магчымасцю тыражавання яны далі штуршок распаўсюджванню пісьменнасці.

Старадаўнія кнігі знаёмяць з гісторыяй кніжнай графікі, друкарскай справы і кнігавыдання, гісторыяй рэлігійнай барацьбы, грамадска-палітычнай і філасофскай думкай свайго часу, культурнымі сувязямі беларускіх зямель з Расіяй і Украінай.

У зборы кніг пераважаюць выданні канца XVI—XVIII стагоддзяў кірылаўскага і грамадзянскага друку, выпушчаныя вядомымі друкарнямі: І. Фёдарава (Астрог), братоў Мамонічаў (Вільня), М. Вашчанкі (Магілёў), М. Слёзкі (Львоў), Гродзенскай, Віленскага праваслаўнага брацтва, Куцеінскага манастыра, Кіева-Пячэрскай лаўры. Многія выданні ўпрыгожаны вяззю, ініцыяламі, застаўкамі, канцоўкамі. Ёсць у іх і гравюры з выявамі евангелістаў.

Сярод рукапісных твораў звяртае на сябе ўвагу «Мінея на сакавік і красавік», напісаная ў 1521 годзе ў Тураве. Пазней на яе старонках былі зроблены запісы аб мясцовых сацыяльных і грамадскіх падзеях XVI—XVIII стагоддзяў. Вялікае гісторыка-музейнае значэнне маюць і такія творы, як «Служэбнік» і «Тылікон» XVI, «Зборнік жыцій святых» XVII стагоддзяў, «Канонік» сярэдзіны XVIII стагоддзя.

Шэраг рукапісаў выканан на высокім мастацкім узроўні. Іх дэкаратыўнае ўбранне складаецца ў асноўным з ініцыялаў і заставак, для якіх выкарыстаны раслінныя, геаметрычныя і звярыныя арнаментальныя матывы, сюжэтныя выявы. Адным з выключна рэдкіх помнікаў па свайму мастацкаму афармленню з'яўляецца «Ірмалогій», напісаны ў 1651 годзе ў Куцеінскім манастыры каля Оршы. Ён адметны тым, што мае не характэрны для рукапісных кніг тытульны ліст з мініяцюрай, створаны пад уплывам афармлення беларускіх і ўкраінскіх друкаваных выданняў першай палавіны XVII стагоддзя.

У рукапісным фондзе ёсць прыгожа аформленыя з васковымі пячаткамі на шнурках каралеўская і княжацкая граматы XVI стагоддзя, у якіх гаворыцца аб дачы аднаму з давыд-гарадоцкіх баярынаў права на лоўлю баброў, аб дарэнні нейкаму шляхцічу сёл у наваколлі Хойнікаў. Гэтыя і іншыя больш познія дакументы з весткамі аб саслоўных прывілеях, сацыяльна-прававой і маёмаснай няроўнасці, паншчыне, пакараннях прыгонных паказваюць, якая вялікая прорва была ў становішчы і побыце феадалаў і сялян. Дадзеную розніцу асабліва наглядна падкрэсліваюць сабраныя музеем раскошныя бытавыя прадметы: разная мэбля, высокамастацкага ліцця бронзавыя гадзіннікі і кандэлябры, фаянсавыя, фарфоравыя і шкляныя вырабы, упрыгожаны эмалямі металічны посуд, іншыя дарагія рэчы, якімі былі запоўнены палацы, асабнякі і сядзібы магнатаў і памешчыкаў. Між тым пералічаныя матэрыялы маюць важнае значэнне не толькі з сацыяльна-бытавога боку. Яны вельмі каштоўныя і як прадметы прыкладнога мастацтва, з'яўляючыся яскравым

сведчаннем таленту і творчасці народа, узаемасувязей і ўзаемаўзбагачэння культур розных зямель.

Сярод мноства гэтых прадметаў, збор якіх ахарактарызаваць поўнасцю ў альбоме проста немагчыма, выклікаюць захапленне перш за ўсё высокамастацкія вырабы Слуцкай мануфактуры шаўковых паясоў. Яны прадстаўлены цэлымі і фрагментаванымі экземплярамі, вытканымі ў другой палавіне XVIII — пачатку XIX стагоддзя з шаўковых, сярэбраных і залатых нітак. У іх ліку ёсць фрагмент так званага «літага» пояса, цалкам затканага з аднаго боку залатой ніткай. Арнаментыка слуцкіх паясоў, у якую мясцовымі майстрамі былі ўведзены нацыянальныя беларускія матывы, адыходзіць ад блізкаўсходніх узораў. У дэкоры, падпарадкаваным форме вырабаў, пераважаюць матывы васількоў, незабудак і іншых кветак, папярочныя гладкія або ўзорыстыя палосы. Раскошныя слуцкія паясы былі ў свой час не толькі важным элементам касцюма мясцовай арыстакратыі, але і прадметам экспарту. Падобныя паясы на беларускіх землях ткалі таксама ў Нясвіжы, Гродне, Ружанах. У мастацкіх адносінах яны слабей вырабаў Слуцкай мануфактуры, у вугалочку якіх ёсць метка на стараславянскай або лацінскай мовах «Слуцк», «У горадзе Слуцку», «Зроблена ў Слуцку».

Каштоўны матэрыял для вывучэння гісторыі прыкладнога мастацтва сабраны ў калекцыі мэблі. У яе складзе знаходзяцца шафы, сталы, канапы, крэслы, буфеты, бюро розных гістарычных перыядаў і мастацкіх стыляў. Адным з першакласных узораў мэблевага майстэрства з'яўляецца рэнесансавая шафа з выразаным на цэнтральнай стойцы годам вырабу — «1561». Немалую цікавасць уяўляюць і некаторыя іншыя ўзоры мэблі, створанай у стылях барока, ракако, ампір, бідармаер, мадэрн.

Многія прадметы, з'яўляючыся творамі прыкладнога мастацтва, адлюстроўваюць адначасова і дасягненні тэхнікі мінулых стагоддзяў. Да такіх помнікаў адносяцца старадаўнія гадзіннікі: сонечныя і механічныя, настольныя, камінныя, падлогавыя, насценныя і кішэнныя, з боем ці без яго і іншымі асаблівасцямі канструкцыі.

Вельмі наглядна дазваляюць убачыць развіццё тэхнікі ў эпохі феадалізму і капіталізму калекцыі зброі. Халодная зброя прадстаўлена алебардамі, палашамі, шаблямі, шашкамі, мячамі і кінжаламі рускай, закаўказскай, заходнееўрапейскай і ўсходняй работы, агнястрэльная — рэвальверамі, пісталетамі, ручніцамі і іншымі стрэльбамі Расіі, Францыі, Германіі, Англіі з калясцовымі, ударна-крамянёвымі і ўдарна-капсульнымі замкамі. Ёсць таксама медныя і чыгунныя гарматы высокамастацкага ліцця. У іх ліку знойдзеная ў рацэ Нёман адна з гармат, адлітых у 1701 годзе майстрам Сямёнам Ляонцьевым з царкоўных званоў, якія былі зняты па загаду Пятра I.

Характэрнай рысай музейнага збору, пачынаючы з перыяду разлажэння феадалізму, з'яўляецца прыкметнае павелічэнне ўдзельнай вагі пісьмовых і, у прыватнасці, дакументальных крыніц. Так, сярод разнастайных дакументаў вялікую цікавасць выклікаюць матэрыялы аб становішчы сялян, сялянскім і грамадска-палітычным руху ў перадрэформеннай Беларусі. Гэта дазволы на шлюб, якія выдавалі памешчыкі сялянам, дагаворы аб падараванні прыгонных, выпіска мінскага павятовага суда са справы 1851 года аб прыгнечанні сялян памешчыкам, данясенні аб хваляванні сялян у Дрыбіне Магілёўскай губерні ў 1845 годзе, распаўсюджванні рэвалюцыйных вершаў у заходніх губернях Расіі ў 1849 годзе, матэрыялы аб падаўленні сялянскіх выступленняў напярэдадні 1861 года, запіска, падрыхтаваная ў 50-я гады XIX стагоддзя невядомым аўтарам, аб неабходнасці адмены прыгоннага права з падрабязным крытычным разборам будучай рэформы.

Шматлікія пісьмовыя крыніцы, а таксама рэчавыя помнікі характарызуюць эканамічны стан і капіталістычныя адносіны ў парэформеннай Беларусі. Яны дазваляюць скласці ўяўленне аб развіцці прамысловасці, умовах працы і жорсткай эксплуатацыі пралетарыяту. Адначасова комплексы матэрыялаў — прэйскурант цэн і блакнот з узорамі паперы, штампы, клеймы, вырабы з каляровага шкла, рэкламныя выданні — расказваюць аб такіх вядомых у дарэвалюцыйны час прадпрыемствах, як Добрушская папяровая фабрыка, Барысаўскі шклозавод.

У музеі сканцэнтраваны багаты этнаграфічны матэрыял: традыцыйныя сельскагаспадарчыя і рамесніцкія прылады працы, хатняе начынне, прадметы побыту беларусаў у другой палавіне XIX — пачатку XX стагоддзя. Многія з гэтых рэчаў — драўляны і керамічны посуд, начынне з саломы, лазы, бяросты, вырабы хатняга ткацтва,— нягледзячы на утылітарнае прызначэнне, адметны сваімі высокімі дэкаратыўнымі вартасцямі. Гонарам музея з'яўляецца эталонная калекцыя беларускага народнага касцюма, сфарміраваная ў выніку шматлікіх экспедыцый ва ўсе рэгіёны рэспублікі. Яна з вялікім поспехам дэманстравалася ў Францыі.

Гісторыка-бытавыя, мемарыяльныя і дакументальныя матэрыялы характарызуюць

прафесійную беларускую культуру эпохі капіталізму. Яны знаёмяць з дзейнасцю заснавальніка беларускага мовазнаўства і філалогіі Я. Ф. Карскага, вядомага беларускага этнографа і фалькларыста, барацьбіта за народную адукацыю А. Я. Багдановіча і іншых вучоных. Многія музейныя прадметы даюць уяўленне аб развіцці беларускай літаратуры, тэатра, музыкі. Найбольш каштоўнымі з іх з'яўляюцца рэчы, звязаныя з жыццём і творчасцю вядомых паэтаў Ф. К. Багушэвіча і М. А. Багдановіча. У зборы прадстаўлены арыгінальныя пісьмовыя прылады, асабістыя рэчы, прадметы мэблі, фотаздымкі, кнігі. Прыцягваюць увагу таксама афішы і праграмы першага прафесійнага беларускага тэатра, створанага І. Ц. Буйніцкім, падпісныя лісты 1888 года па збору ахвяраванняў на будаўніцтва Мінскага гарадскога тэатра.

Назапашаны значны па аб'ёму і разнастайны па зместу матэрыял аб распаўсюджванні марксізму ў Беларусі, дзейнасці РСДРП, рэвалюцыйнай барацьбе беларускага народа. Цэнтральнае месца ў зборы прадметаў, звязаных з гэтымі важнымі гістарычнымі з'явамі і падзеямі, займаюць марксісцкая літаратура, нумары газеты «Искра», лістоўкі ЦК РСДРП, Паўночна-Заходняга і Палескага камітэтаў РСДРП, мінскай групы РСДРП. Вялікую цікавасць выклікаюць таксама часопісы рускай рэвалюцыйнай сатыры «Фонарь», «Сигналы», «Пулемет», «Зарево», «Стрелы» выдання 1905—1906 гадоў. У іх знайшлі адлюстраванне многія падзеі перыяду першай рускай рэвалюцыі, змешчаны карыкатуры на палітыку кіруючага класа. Сярод музейных прадметаў — кандалы, у якія закоўвалі палітказаржан і палітзняволеных, кавалерыйская бізун-нагайка, знойдзеная пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ў мінскай турме, дзверы адной з турэмных камер. Гэтыя рэчы разам з адпаведнымі дакументамі даюць уяўленне аб рэакцыйнай палітыцы царскага самаўладства, імкненні задушыць рэвалюцыйны рух.

Шэраг разнастайных дакументаў, уключаючы пратаколы, рэзалюцыі і мандаты Заходнефрантавой і абласной нарады РСДРП(б), 1-й Паўночна-Заходняй канферэнцыі РСДРП(б), што адбыліся ў Мінску ў верасні 1917 года, партыйныя білеты, адлюстроўваюць гісторыю ўтварэння партыі бальшавікоў Беларусі і яе кіруючых органаў. Значную цікавасць уяўляюць таксама крыніцы, якія расказваюць аб рэвалюцыйнай дзейнасці Мінскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў,— газета «Известия Минского Совета», Праект статута, асабістыя дакументы членаў Савета.

Шматлікі матэрыял характарызуе гераічную барацьбу працоўных Беларусі ў перыяд Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. Сярод гістарычных рэліквій вызначаюцца матэрыялы аб утварэнні Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, сцяг 27-й Омскай стралковай дывізіі Чырвонай Арміі, якая вызваляла ў 1920 годзе Беларусь і горад Мінск ад войск замежнай інтэрвенцыі. Рэдкім помнікам з'яўляецца паштоўка 1918 года з партрэтам У. І. Леніна, тыраж і клішэ якой знішчыла ў адной з петраградскіх друкарань банда эсэраў. Выпадкова захаваліся толькі некалькі экземпляраў паштоўкі. Яна па праву займае сёння належнае месца ў бессмяротнай Ленініяне. Вялікую гістарычную каштоўнасць маюць комплексы прадметаў, што адлюстроўваюць барацьбу беларускага народа ў гады замежнай інтэрвенцыі і грамадзянскай вайны. Асаблівую цікавасць выклікаюць, у прыватнасці, асабістая зброя, узнагароды, абмундзіраванне, дакументы аднаго з арганізатараў партызанскага руху ў Беларусі Л. В. Грынвальда-Мухі, камандзіраў Чырвонай Арміі І. Н. Хабарава, М. Я. Чыбісава, І. Ф. Арачкі і іншых. У музеі ёсць створаныя мастакамі скульптурныя партрэты заснавальніка Савецкай дзяржавы У. І. Леніна, відных рэвалюцыйных дзеячаў Беларусі, военачальнікаў і камандзіраў Чырвонай Арміі М. В. Фрунзе, А. Ф. Мяснікова, М. М. Тухачэўскага, Я. Ф. Фабрыцыуса, У. М. Азіна, Ф. Э. Дзяржынскага.

Вялікая колькасць матэрыялу сабрана аб аднаўленні і развіцці народнай гаспадаркі рэспублікі, пабудове сацыялістычнага грамадства, дзейнасці Камуністычнай партыі Беларусі і ўрада БССР. Сярод шматлікіх гістарычных дакументаў і прадметаў гэтага перыяду пільную ўвагу прыцягваюць перш за ўсё мандаты дэлегатаў з'ездаў РКП(б), ВКП(б) і КП(б)Б, лістоўка ЦК КП(б)Б «Аб харчовым падатку», атэстаты герояў працы, ордэны і розныя іншыя знакі ўзнагароды за доблесную працу, дакументы ўдарнікаў першых пяцігодак, узоры першай прадукцыі Мінскага станкабудаўнічага завода імя Кастрычніцкай рэвалюцыі, Барысаўскага шклозавода імя Ф. Э. Дзяржынскага, рэканструяванага ў гады першай пяцігодкі, і г. д.

Цікавы комплекс матэрыялаў сфарміраваны аб развіцці сельскай гаспадаркі. Цэнтральнае месца ў ім займаюць Дзяржаўны акт на вечнае карыстанне зямлёй калгасамі, разнастайныя дакументы правядзення калектывізацыі, у тым ліку заявы сялян аб уступленні ў калгас, акты канфіскацыі маё-

масці кулакоў, Прыкладны статут сельгасарцелі. Дасягненні рэспублікі ў галіне сельскай гаспадаркі ў даваенны перыяд адлюстроўваюць Ганаровая кніга Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі 1939—1940 гадоў у Маскве, узнагароды перадавікоў і пасведчанні ўдзельнікаў гэтай выстаўкі.

Разнастайны матэрыял асвятляе культурную рэвалюцыю ў БССР. Ён расказвае аб арганізацыі ў рэспубліцы школ, навуковых і вышэйшых навучальных устаноў. Каштоўнымі гістарычнымі помнікамі даваеннага перыяду з'яўляюцца членскія білеты таварыства «Прэч непісьменнасць», буквар для дарослых і іншыя падручнікі, перыядычныя выданні «Маладняк», «Полымя рэвалюцыі», «Бальшавік Беларусі», «Савецкая Беларусь», «Наш край», творы Я. Купалы, Я. Коласа, Я. Маўра, К. Крапівы, Ц. Гартнага, дакументы і асабістыя рэчы першага рэктара Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна акадэміка АН БССР У. І. Пічэты, вядомых вучоных-гісторыкаў У. М. Перцава, М. М. Нікольскага. Аб поспехах рэспублікі ў развіцці мастацкай культуры сведчаць матэрыялы Дэкады беларускага мастацтва і літаратуры, што адбылася ў 1940 годзе ў Маскве.

Асобнае месца ў музейным зборы, прысвечаным гісторыі даваеннага перыяду, займаюць крыніцы аб барацьбе працоўных пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі (КПЗБ) за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, за ўз'яднанне з БССР у 1939 годзе.

Шматлікія матэрыялы музея звязаны з тэмай Вялікай Айчыннай вайны. Гэта лістоўкі, газеты, дакументы, размнажальная паліграфічная тэхніка, зброя, дзяржаўныя ўзнагароды, самаробныя партызанскія медалі, асабістыя рэчы кіраўнікоў і радавых удзельнікаў важных баявых аперацый, у тым ліку выдатнага савецкага палкаводца, намесніка Вярхоўнага Галоўнакамандуючага, Маршала Савецкага Саюза Г. К. Жукава, першага намесніка начальніка Генеральнага штаба Узброеных Сіл СССР у гады вайны генерала арміі М. І. Антонава, ураджэнца г. Гродна. Яны дазваляюць досыць выразна паказаць асноўныя этапы Вялікай Айчыннай вайны, абарону Беларусі, партыйна-камсамольскае падполле, партызанскі рух, вызваленне рэспублікі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў.

У музейным зборы маецца вялікая колькасць дакументальных і рэчавых крыніц, якія характарызуюць развіццё БССР у пасляваенны перыяд. Партыйныя дакументы, асабістыя кніжкі ўдзельнікаў аднаўлення разбураных беларускіх гарадоў, узоры сталі, чыгуну, коксу, інструментаў, што паступалі з Ленінграда, Масквы, Макееўкі, Магнітагорска, Крывога Рога, узоры першай пасляваеннай прадукцыі Мінскага радыёзавода, Магілёўскага завода электрарухавікоў ярка паказваюць напружаную гераічную працу беларускага народа, дапамогу народаў братніх рэспублік па аднаўленню народнай гаспадаркі БССР. Гэтыя і многія іншыя гістарычныя матэрыялы аб эканамічнай узаемадапамозе, супрацоўніцтве ў розных галінах навукі і тэхнікі, культурным абмене і сацыялістычным спаборніцтве савецкіх рэспублік, прывітальныя адрасы і падарункі Беларускай ССР і гораду Мінску красамоўна адлюстроўваюць дружбу народаў СССР, трыумф ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Разнастайныя дакументы і прадметы асвятляюць узрастанне кіруючай ролі Камуністычнай партыі на сучасным этапе, развіццё эканомікі БССР, паказваюць станаўленне і дасягненні такіх галін вытворчасці, як радыётэхніка і радыёэлектроніка, нафтаздабыча і нафтахімія, дакладнае прыборабудаванне, хімія мінеральных угнаенняў і сінтэтычных валокнаў... Многія экспанаты расказваюць аб мінскіх аўтамабільным, трактарным, маторным, гадзіннікавым заводах, салігорскім камбінаце «Беларуськалій», гродзенскім вытворчым аб'яднанні «Азот» імя С. В. Прытыцкага і многіх іншых буйных прадпрыемствах. Адначасова музейныя рэчы знаёмяць з перадавікамі вытворчасці, перадавымі брыгадамі, патрыятычнымі пачынамі.

Цікавы матэрыял ёсць і аб сельскай гаспадарцы. Ён не толькі характарызуе галіновую структуру і спецыялізацыю сельскагаспадарчай вытворчасці ў рэспубліцы, але і дае ўяўленне аб перадавых гаспадарках, лепшых механізатарах, жывёлаводах. Асаблівую ўвагу прыцягваюць дакументы і прадметы, якія расказваюць аб калгасах «Рассвет» Кіраўскага раёна Магілёўскай вобласці і «Аснежыцкі» Пінскага раёна Брэсцкай вобласці, пра такіх славутых працаўнікоў сельскай гаспадаркі, як Герой Савецкага Саюза, Герой Сацыялістычнай Працы К. П. Арлоўскі, Героі Сацыялістычнай Працы Л. І. Асіюк, браты Жлобы, М. А. Караткевіч, А. М. Мокат...

Сабраныя музеем рапарты і тэлеграмы працоўных калектываў з'ездам КПСС і Кампартыі Беларусі, узоры прадукцыі, дыпломы і медалі ВДНГ, сцягі, пасведчанні і знакі пераможцаў сацыялістычнага спаборніцтва, дыпломы «Лепшы рабочы», «Майстар — залатыя рукі», асабістыя рэчы перадавікоў працы і іншыя прадметы адлюстроўваюць паспяховае ператварэнне ў жыццё рашэнняў партыі і ўрада.

Багаты матэрыял характарызуе поспехі рэспублікі ў павышэнні дабрабыту народа, развіцці навукі, тэхнікі, культуры, спорту. Вялікую цікавасць выклікаюць дыпломы, медалі, навуковыя працы відных вучоных і арганізатараў навукі Герояў Сацыялістычнай Працы, акадэмікаў АН БССР В. Ф. Купрэвіча, Ф. І. Фёдарава, В. І. Сцяпанава, акадэміка АН БССР У. П. Платонава. Каштоўнымі гістарычнымі помнікамі з'яўляюцца рукапісы, дакументы вядомых беларускіх пісьменнікаў Героя Сацыялістычнай Працы В. Быкава, І. Мележа, Я. Маўра, П. Глебкі і шэрага іншых відных дзеячаў культуры. Багатая калекцыя твораў сучаснага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва дае ўяўленне аб беларускай нацыянальнай разьбе па дрэву, мастацкім роспісе, кераміцы, салома-і лазапляценні, ткацтве, вышыўцы і карункапляценні.

Экспазіцыя Дзяржаўнага музея БССР, размешчаная ў 18 залах, асвятляе 22 тэмы. Яна пабудавана па грамадска-эканамічных фармацыях у адпаведнасці з гістарычнай перыядызацыяй. У экспазіцыі ахарактарызаваны ўзровень развіцця вытворчых сіл у тую ці іншую эпоху, палітычны лад і сацыяльная структура грамадства, класавая і народнавызваленчая барацьба, адлюстраваны асноўныя напрамкі ў знешняй і ўнутранай палітыцы, побыт працоўных, культура, асвета, развіццё навукі, тэхнікі. Некалькі залаў знаёмяць з геалагічным мінулым, светам флоры і фауны, аховай навакольнага асяроддзя. Тут экспануюцца калекцыі мінералаў, узоры карысных выкапняў, гербарыі, тыповыя віды жывёльнага свету.

Філіялам музея з'яўляецца помнік гісторыі і культуры канца XVI — пачатку XVII стагоддзя былая Спаса-Праабражэнская царква, размешчаная ў г. п. Заслаўі непадалёку ад Мінска. У экспазіцыі філіяла дэманструюцца старадаўнія вырабы майстроў мастацкай апрацоўкі металу, кастарэзнага, кавальскага і ганчарнага рамёстваў, шкларобства, ткацтва, пляцення, разьбы па дрэву, узоры старажытнабеларускага жывапісу і нацыянальнага адзення.

Штогод Дзяржаўны музей БССР і яго філіял прымаюць каля 250 тысяч наведвальнікаў, у тым ліку гасцей з многіх сёл і гарадоў нашай краіны, турыстаў з-за мяжы. Для іх арганізуюцца кваліфікаваныя экскурсіі, чытаюцца лекцыі па праблемах гісторыі і культуры, праводзяцца тэматычныя вечары, вусныя часопісы, сустрэчы з дзеячамі культуры, навукі і тэхнікі, перадавікамі вытворчасці. Музей падтрымлівае цесныя сувязі з навуковымі і навучальнымі ўстановамі, прамысловымі прадпрыемствамі, калгасамі і саўгасамі, арганізоўвае Дні музея. Значнае месца ў яго дзейнасці займае выставачная работа. Фотадакументальныя і рэчавыя выстаўкі экспануюцца ў многіх населеных пунктах рэспублікі, а таксама розных гарадах шматнацыянальнай Савецкай краіны. Калекцыйны матэрыял музея выкарыстоўваецца не толькі ў культурна-асветных мэтах. Ён служыць каштоўнай крыніцай для навуковых даследаванняў па гісторыі Беларусі.



1
РАННІ ЖАЛЕЗНЫ ВЕК НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ. VII ст. да н. э.— IV ст. н. э.
Фрагмент экспазіцыі




2
**ЗАХОДНІЯ ЗЕМЛІ РУСІ Ў СКЛАДЗЕ СТАРАЖЫТНАРУСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ.**
**IX — пачатак XII ст. Фрагмент экспазіцыі**



3
ПАДМУРАК ЖЫЛЛЯ ПЕРШАБЫТНАГА ЧАЛАВЕКА. Фрагмент. XVIII—XVI тысячагоддзі да н. э.



4
СЯКЕРА. III тысячагоддзе да н. э.



5
МАТЫКІ. Канец III — першая палавіна II тысячагоддзя да н. э.



6
БІВЕНЬ, НІЖНЯЯ СКІВІЦА І ЗУБЫ МАМАНТА. XVIII—XVI тысячагоддзі да н. э.



7
СЯКЕРЫ. Першая палавіна II тысячагоддзя да н. э.

8
НАКАНЕЧНІК КАП'Я. Першая палавіна II тысячагоддзя да н. э.

9
ГАРПУНЫ І КРУЧОК. Канец III — пачатак II тысячагоддзя да н. э.







10
СЯКЕРЫ. Першая палавіна II тысячагоддзя да н. э.



11
НАКАНЕЧНІКІ СТРЭЛ. Канец III — пачатак II тысячагоддзя да н. э.



12
НАКАНЕЧНІКІ СТРЭЛ. Канец III — пачатак II тысячагоддзя да н. э.



13
ПАДВЕСКІ. Канец III — пачатак II тысячагоддзя да н. э.



14
ПАДВЕСКІ. XVIII—XVI тысячагоддзі да н. э.



15
АРНАМЕНТАВАНЫЯ ПРАДМЕТЫ. XVIII—XVI тысячагоддзі да н. э.





16
ШПІЛЬКІ. VIII—VII стст. да н. э.

17
ГАЛОЎКА ПТУШКІ. XVIII—XVI тысячагоддзі да н. э.



18
КАРАЛІ. XVIII—XVI тысячагоддзі да н. э.



19
ГАЛОЎКА ПТУШКІ. Канец III — пачатак II тысячагоддзя да н. э.



20
ФІГУРКА ЧАЛАВЕКА. Канец III — пачатак II тысячагоддзя да н. э.



21
ЗМЯЯ. Канец III — пачатак II тысячагоддзя да н. э.



22
ФІГУРКА ЛАСЯ. Канец III — пачатак
II тысячагоддзя да н. э.



23
ГАРШЧОК. Сярэдзіна II тысячагоддзя да н. э.





24
ПОСУД. Сярэдзіна II тысячагоддзя да н. э.

25
ГАРШЧОК. Канец III— пачатак II тысячагоддзя да н. э.



26
ПАСУДЗІНА. Сярэдзіна II тысячагоддзя да н. э.





28
ПОСУД. II—I стст. да н. э.

29
ГАРШКІ І МІСКІ. II—I стст. да н. э.



30
ПАСУДЗІНА. IV—II стст. да н. э.



31
УМАЦАВАНАЕ ПАСЕЛІШЧА ПЛЯМЁН
КУЛЬТУРЫ ШТРЫХАВАНАЙ КЕРАМІКІ.
III—IV стст. Рэканструкцыя





32
ГАРШКІ І МІСКА. І ст. да н. э. — І ст. н. э.

33
БРАНЗАЛЕТЫ, КОЛЬЦЫ І ФІБУЛЫ. ІІ—І стст. да н.э.



34
ФІБУЛА. ІІІ—IV стст.



35
НАКЛАДКА НА ШЧЫТ. Рубеж н. э.



36
КРУЧОК ПАЯСНЫ З АДЛЮСТРАВАННЕМ ГАЛОВАК КОНІКАЎ І БУЛАВА.
Канец X — першая палавіна XI ст.



37
ПАДВЕСКА-ЛУННІЦА. III—IV стст.



38
КОЛЬЦА СКРОНЕВАЕ. V—IV стст. да н. э.



39
ПАДВЕСКА. VI—VIII стст.



40
БРАНЗАЛЕТ. Канец XII — пачатак XIII ст.



41
МАНЕТНА-РЭЧАВЫ СКАРБ. Першая палавіна XI ст.



42
ГРЫЎНІ ШЫЙНЫЯ. XI—XII стст.



43
ПАЦЕРКА. XII—XIII стст.



44
ЗАВУШНІЦА. Фрагмент. Са скарбу сярэдзіны XI ст.



45
БРАНЗАЛЕТ З АДЛЮСТРАВАННЕМ ГАЛОВАК ДРАКОНА. XII ст.





46
ЮВЕЛІРНЫЯ ВЫРАБЫ. Са скарбу сярэдзіны XI ст.

47
ЖАНОЧАЕ ЎПРЫГОЖАННЕ. XII ст.



48
АМУЛЕТ-КОНІК. XII ст.



50
ГАЛОЎКА КАНЯ. IX—X стст.



51
ГАЛОЎКА ЛАСЯ. XII—XIII стст.



52
ГРЭБЕНЬ. XIII ст.





53
ПАЦЕРКІ. XI—XII стст.

54
ПАЦЕРКІ. XI—XII стст.



55
КАРАЛІ. XI—XII стст.



57
**ВУХАЧЫСТКА З АДЛЮСТРАВАННЕМ МУЗЫКАНТА.** Дэталь. Першая палавіна XII ст.





58
ВУХАЧЫСТКА З АДЛЮСТРАВАННЕМ МУЗЫКАНТА. Першая палавіна XII ст.

59
ВУХАЧЫСТКА З АДЛЮСТРАВАННЕМ САБАЧКІ. XII ст.



60
ШАХМАТНЫ ФЕРЗЬ. XII ст.



61
ІГОЛЬНІК. Дэталь. XII ст.



65
АМФАРА. Фрагмент з прачэрчаным надпісам «олѣкъсн». XII ст.





66
ДУКАТ ЭРЦГЕРЦАГА КАРЛА КАРЫНЦІЯ. 1576

67
ФОРМА ДЛЯ АДЛІЎКІ АБРАЗКОЎ З АДЛЮСТРАВАННЕМ АРХАНГЕЛА МІХАІЛА. XV ст.



68
ПАСУДЗІНА. XIII ст.





69
НАРАДЖЭННЕ ХРЫСТА. СТВОРКА АБРАЗКА-СКЛАДНЯ. XIII—XV стст.

70
КУФАР-«ЦЕРАМОК». XVIII ст.



71
ЗВОН. 1679





72
МАНЕТНЫ СКАРБ. XVII ст.

73
ЧАКАНКА. 1640



74
ПАСУДЗІНА. XVII—XVIII стст.

75
ЭПІТАФІЯ. 1652





76
ЧАШЫ. Канец XVIII ст.



79
КАФЛЯ. Фрагмент. Конец XVI ст.



80
КАФЛЯ. Канец XVI ст.



81
КАФЛЯ. Фрагмент. Канец XVI — першая палавіна XVII ст.



82
КАФЛЯ. Канец XVI ст.





83
КАФЛІ. Першая палавіна XVII ст.

84
КАФЛЯ З АДЛЮСТРАВАННЕМ ФАМІЛЬНАГА ГЕРБА. Другая палавіна XVII ст.



85
КАФЛЯ. Канец XVI — першая палавіна XVII ст.



86
УСПЕННЕ. 1730-я гг.



87
ТАЙНАЯ ВЯЧЭРА. Фрагмент. XVII ст.



88
ХРЫСТОС ПЕРАД ПІЛАТАМ. XVIII ст.



89
ЦАРСКІЯ ВАРОТЫ. Дэталь. Пачатак XVIII ст.



90
ЦАРСКІЯ ВАРОТЫ. Пачатак XVIII ст.



91
ПОЯС. Фрагмент. Другая палавіна
XVIII ст.



92
ПОЯС. Фрагмент. Другая палавіна XVIII ст.







93
ПОЯС. Дэталь. Другая палавіна XVIII ст.

94
ПОЯС. Дэталь. Другая палавіна XVIII ст.

95
ПОЯС. Фрагмент. Другая палавіна XVIII ст.



96
АРНАТ З АДЛЮСТРАВАННЕМ ФАМІЛЬНЫХ ГЕРБАЎ. Канец XVIII ст.



**97**
**ГРАФІН І ФЛЕТЫ.** Першая палавіна XIX ст.



98
ФЛАКОН І БАКАЛ. XIX ст.





99
КНЯЖАЦКАЯ ДАРАВАЛЬНАЯ ГРАМАТА. 1568

100
КАРАЛЕЎСКАЯ ДАРАВАЛЬНАЯ ГРАМАТА ДАВЫД-ГАРАДОЦКАМУ БАЯРЫНУ НА ПРАВА ЛОЎЛІ БАБРОЎ. 1524



103
ІРМАЛОГІЙ. 1651



104
ІРМАЛОГІЙ. Тытульны ліст. 1651



105
П. БЯРЫНДА. ЛЕКСІКОН СЛАВЕНА-РОСКІ. 1653



106
СТАРАДРУКАВАНЫЯ КНІГІ. Канец XVI—XVII ст.



107
**БЕЛАРУСЬ У ЭПОХУ ФЕАДАЛІЗМУ.**
**Фрагмент экспазіцыі**



108
БЕЛАРУСКІ ПЕРШАДРУКАР, АСВЕТНІК І КУЛЬТУРНЫ ДЗЕЯЧ ЭПОХІ АДРАДЖЭННЯ Ф. СКАРЫНА[1490(?)—1551 (?)]. 1946—1962. Скульптар А. К. Глебаў




109
**ПАЎНОЧНАЯ ВАЙНА. 1700 — 1721.**
**Фрагмент экспазіцыі**



110
ПІСТАЛЕТ І СТРЭЛЬБА. XVII ст.



111
СТРЭЛЬБА І ПІСТАЛЕТ. Пачатак XIX ст.



112
ПІСТАЛЕТЫ ДУЭЛЬНЫЯ. Пачатак XIX ст.



113
ШАШКА І КІНЖАЛЫ. XIX ст.





114
КАСКА УНТЭР-АФІЦЭРА КАВАЛЕРГАРДСКАГА ПАЛКА. Пачатак XIX ст.

115
КІРАСА. Пачатак XIX ст.



116
БІТВА ПРЫ БЯРЭЗІНЕ 1812 Г. Другая чвэрць XIX ст. Мастак Ф. П. Талстой



117
ТРОХДЗЁННЫ БОЙ ПРЫ Г. КРАСНЫМ
1812 Г. 1819. Мастак Ф. П. Талстой






118
РУБЕЛЬ С ПАРТРЭТАМ ПЯТРА І. 1725

119
СЕСТРАРЭЦКІ РУБЕЛЬ. Пачатак XIX ст. ПАЛУШКА. 1733




120
ГАДЗІННІК СОНЕЧНЫ. 1779



121
МЕДАЛЬ «У ПАМЯЦЬ ПЕРАМОГІ РУСКІХ ВОЙСК ПАД ЛЯСНОЙ 28 ВЕРАСНЯ 1708 Г.». 1720. Мастак Ф. Г. Мілер




122
МЕДАЛЬ «У ПАМЯЦЬ ВЫДАННЯ Э. ГУТЭН-ЧАПСКІМ ПРАЦЫ «КАТАЛОГ МЕДАЛЁЎ І ПОЛЬСКІХ МАНЕТ». 1878



123
МЕДАЛЬ «У ПАМЯЦЬ 500-ГОДДЗЯ РУСКАЙ АРТЫЛЕРЫІ». 1889

